STUDENCKAJA DUMKA

№ 1
студзень 1997 г.

ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦТВА

## Слова ад выдаўцоў

*Нарэшце, пасьля доўгага перапынку мы аднавілі выданьне газэты «Студэнцкая Думка». А пакольki шмат хто зь цяперашніх студэнтаў ня ведае пра «Думку» анічога, распавядзем коратка гісторыю «Думкі».*

*Нашае выданьне мае багатую традыцыю: яно было заснавана ў 1924 годзе й выдавалася на Заходняй Беларусі да сярэдзіны 30-х гадоў. пасьля доўгага перапынку выданьне было адноўлена студэнтамі Менскага Тэхналягічнага Інстытуту ў 1989 годзе, але на жаль з 1993 года ізноў наступіў перапынак.*

*Патрэба ж савёй газэты ў асяродку беларускага студэнцтва ва ўсе часы была вельмі моцная. «Студэнцкая Думка» па меры сваіх магчымасьцяў старалася задаволіць гэтую патрэбу: даць інфармацыю аб дзейнасьці беларускіх студэнцкіх арганізацыяў, дазволіць абмяняцца думкамі аб студэнцкім жыцьці, даць некаторыя парады. Можна сьмела сказаць, што разам з нашым выданьнем і, шмат у чым дзякуючы яму, узгадавалася не адно пакаленьне беларускай па-духу інтэлігенцыі.*

*Мы, сёняшнія сябры рэдакцыі, адчуваем вялікую адказнасьць, аднаўляючы выданьне з такой багатаю гісторыяй. Таму паспрабуем зрабіць «Думку» цікавай, вясёлай і, што самае галоўнае, зьмястоўнай газэтаю. На старонках якой Ты, шаноўны чытач, здолееш знайсьці навіны і палітыкі, іграмадзкака жыцьця і музыкі і мастацтва. Ня будзем забываць таксама пра літаратуру й студэнцкую навуку: спадзяемся друкаваць як творы маладых беларускіх літаратараў, так і пераклады заходніх класікаў; таксама ў нашай газэце выйдзе шэраг уводных лекцыяў у некаторыя навуковыя праблемы. Ну і, канешне, самы лепшы, дасьціпны, «забойны» студэнцкі гумар! Канешне, пакуль «Студэнцкая Думка» будзе выходзіць такім аб'ёмам раз на месяц і адпаведна шмат матар'ялаў апынецца, як кажуць «па-за нусарам». Але зь цягам часу спадзяемся выдавацца часьцей і на 24 - 30 старонках.*

*Як бачыш, шаноўны чытач, пляны ў нас вялікія. Што з задуманага атрымаецца — судзіць табе. Таму чытай і ацэньвай.*

*Са спадзяваньнямі на доўгае сяброўства*
*Ігар Тышкевіч, Алесь Казак*

*Замест эпіграфа:*

## Вызнаньне

— Скажы мне, хто ты, мой юнача?
— Я Беларусі-Маці сын.
— Які твой край?
— Радзіма наша
вялікая,
багатая
й прыгожая, як вокам кінь!
— А дзе яна, скажы юнача?
— Ад Беластока па Смаленск.
— Дзе дома ты?
— Дзе мова наша
красуецца
і чуецца
ад вёсак па сталіцу — Менск!
— Каго кахаеш, мой юнача?
— Найбольш кахаю свой народ.
— Чаму?
— Па ім душа мне плача,
а плачу я,
як бачу я,
што ў путах ён з роду ў род!...
— Што ж мусіш знаць ты, мой юнача?
— Што працаваць, змагацца трэ'!
— За што?
— За будучыню нашу,
свабодную
й пагодную!
Перамагу — бо моц ува мне!
— Які штандар твой, мой юнача?
— То бел-чырвона-белы сьцяг.
— А знак?
— Пагоня, гордасьць наша, —
князёўская,
літоўская, —
то сьветлы ў будучыню шлях!
— Што прысягнуў ты, мой юнача?
— Аж да магілы верным быць!
— Каму?
— Краіне-Маці нашай:
яе я век
на ганьбу, зьдзек
ня дам, бо ў путах — лепш ня жыць!
— У што ты верыш, мой юнача?
— Што несьмяротны мой народ!
— А ты?
— Як лёс ісьці мне скажа
гэроем стаць,
і шкадаваць
жыцьця ня буду за народ!

*В.Аганёк*
*Менск, 1943 г.*



# 1 9 9 6
## Год пачаўся — год скончыўся...

***Шаноўны чытач.***

***Падводзячы рысу пад падзеямі мінулага году мы вырашылі не даваць нейкіх аналітычных выкладак, а надрукаваць проста храналёгію падзеяў. Натуральна, што ў першую чаргу апісаныя тыя акцыі, на якіх вялікую ролю адыгрывала прысутнасьць моладзі. Сьвядома таксама абмяжоўваем колькасьць каментараў, упіраюцы на канстатацыю фактаў. Высновы рабіць цябе.***

*Рэдакцыя* **SD**



Сімвалам палітычнага жыцьця пачатку мінулага года можна лічыць масавыя акцыі пратэсту...

## Кроніка падзеяў 1996 года.

*(ма матарыяла прэсы й сваіх уражаньнях)*

**24 сакавіка**

Акцыя, прысьвечаная 78-м угодкам БНР.

Масасвае шэсьце ад пл. Незалежнасьці, мітынг каля Опернага тэатру, спроба «узяць тэлецэнтар» — дамагчыся эфіру для лідараў апазыцыі.

Па акцыі першыя сутычкі зь міілцыяй 1996 году. Каля 2-х тысячаў чалавек, у асноўным моладзь, «займае кругавую абарону» у скверы насупраць КДБ. Ёсьць параненыя. Арыштавана каля 30 чалавек.

**31 сакавіка**

У сталіцу на праспект Машэрава на аўтобусах звозяцца людзі з усёй Беларусі. Афіцыйны пралукашэнкаўскі мітынг.

Студэнты юрфака БДУ спрабуюць вывесіць з вокнаў бел-чырвона-белыя сьцягі й арганізуюць пікет. Удзельнікі пікету затрыманыя міліцыяй.

**1 красавіка**

У дворыку БДУ прадстаўнікі ФАБ (Федэрацыя Анархістаў Беларусі), незалежных прафарганізацыяў студэнтаў з 3-х менскіх ВНУ, а таксама з Гомеля й Гародні арганізуюць пікет «у падтрымку ынтэграцыі з брацкім славянскім кыргызкім народам». Прарэкрар БДУ Паўлаў спрабуе ўгаварыць удзельнікаў пікету разысьціся.

**2 красавіка**

30-ці тысячнае шэсьце па вуліцах Менска. Цэнтар горада ачэплены міліцыяй. Да 60% удзельнікаў — моладзь узростам да 30 год. Абыходзіцца без вялікіх сутычак.

**2 красавіка, Магілёў**

У Магілеўскім Пэдагагічным Унівэрсітэце арганізуецца збор подпісаў «за далучэньне Магілёва да Швэцыі».

**26 красавіка**

Масавае шэсьце й мітынг. Удзельнічае 35 - 40 тысячаў чалавек. «Вулічныя баі» зь міліцыяй на пр. Скарыны. Апошняя ўжывае газу, дубінкі, іншыя сьпец-сродкі. Спроба моладзі прарвацца ў абыход міліцыі ад пл. 8 Сакавіка да пл. Незалежнасьці. Моладзь адкінута назад. Каля 100 пацярпелых. Ёсьць зьвесткі, што ў зьбіцьці дэманстрантаў брали ўдзел расейскія АМАП-аўцы.

**26-27 красавіка**

Масавыя арышты. Узята каля 200 чалавек. Палова — моладзь да 25 гадоў і студэнты.

**30 красавіка**

Арыштаваны Борман (Андрэй Рамашэўскі) — лідар Партыі Аматараў Піва.

**14 траўня**

Маладзёжны пікет на Панікоўке (каля рэзыдэнцыі прэзыдэнта). Удзельнічае каля 3 тысяч чалавек. Патрабаваньне — выпусьціць палітвязьняў. Па пікеце — шэсьце да Валадаркі (турмы на вул. Валадарскай).

**30 траўня**

Спроба паўтарыць пікет 14 -га. Моладзь ацыясьняюць на пр. Скарыны. Тады ўдзелькікі пікета ськіроўваюцца да Валадаркі, але адкідваюцца АМАПам да ГУМу. Там, узятыя ў кальцо сьпецназа на працягу 2-х гадзінаў вымушаны трымаць кругавую абарону. Першая акцыя, якую міліцыя пры сваёй колькаснай перавазе, ня здолела разагнаць. На пачатку ўдзельнічала каля 500 чалавек, пад час шэсьця да Валадаркі колькасьць удзельнікаў узрасла ўдвая. Пры бойках зь міліцыяй пацярпела шмат выпадковых людзей, што йшлі па ходніцах праспекту.

**7 чэрвеня**

Ператрус у рэдакцыі газэты «Беларуская Маладзёжная». Памяшканьне рэдакцыі незаконна апячатваюцца.

**10 чэрвеня**

Журналісты «БМ»зрываюць плёмбы й пачынаюць працаваць над наступным нумарам газэты.

*Працяг* ☞



Першы раз мы паказалі, што нас чакае пры Лукашэнке ў траўні 1995, прайшоўшыся з рукамі за галавой вакол прэзыдэнцкага палаца. Другі раз (на здымку)—10 сьнежня 1996 у пікеце каля нацбанка.

***Ці спатрэбіцца трэцяя дэманстрацыя будучыні?***

### Naviny adnym radkom...

У Белдзяржунівэрсытэце распацоўваецца новы статут гэтай навучальнай установы. Паказальна тое, што ў большасьці праектаў нічога не гаворыцца пра ўдзел студэнтаў у кіраваньні ВНУ праз, напрыклад, працу ў Навуковай Радзе (для параўнаньня ў 1990 годзе колькасьць студэнтаў там даходзіла да 20%) й іншых структурах. Затое пачынаецца распрацоўка «Палажэньня аб студэнцкай Радзе БДУ». На якіх правах будзе існаваць Студэнцкая Рада (СР)— невядома, бо ў студэнтаў няма аніякіх рычагоў дзеля лабіраваньня ёйных рашэньняў. Акрамя таго, пра СР няма *аніводнага* слова ў статуце.

Што ж Рэктар, ініцыяваўшы гэтыя зьмены, ідзе курсам самага высокага начальніка.

**Padborka padrychtavanaja infarmacyjnaj službaj ZBS**

Продкі заклікаюць...

# ПРАЧНІСЯ, БЕЛАРУСЕ!

Прачніся, Беларусе!

Звалі з сябе вяковую, маной сшытую дзяругу.

Страсі стагодні пыл, што засьцілае твае вочы.

Падніміся!

Глянь на сваё, ліхазельлем парослае поле. Глянь і паслухай, як прагавіта дзяруцца суседзі, што, карыстаючыся сном тваім, гаруць аблудай тваю Зямліцу і засяваюць маной твае родныя гоні.

Паслухай!

Якім страхацьцем адчуваецца рогат сытых тваёй цемнатою суседзяў!...

Дзеці твае плачуць.

Плачуць над сваёй нядоляй, песьцяць мазалямі сваю Родную Зямліцу і просяць, каб дала ім кавалак чорнага хлебу.

Яна — Зямліца — сама ў нядолі.

На яе пасягаюць прагавітыя рукі чужынцаў і засяваюць зярняты пагарна-зманлівае здрады.

Дык устань, гаспадару!

Устань, браце!

Памажы працаваць тым, што прачнуліся, бо прагавітыя суседзі сьмяюцца, што мы ня ўмеем, што ня здольныя гаспадарыць на сваёй Зямельцы.

Прачніся, беларусе!

Звалі з сябе камень цемнаты. Глянь зрокам вольных прадзедаў-волатаў, зрокам, пранікаючым у тайніцы руінаў, раскрываючым агіду стагодзяў, заглядаючым у курганы, раскіданыя па ўсёй нашай Зямліцы.

Глянь вокам арліным!

Вокам, што ня сплушчыцца ад зманлівага бліску шляхоцка-панскае справядлівасьці.

Ідзі!

Гары і засявай потам аблітае поле. Працуй і сьпявай вольныя песьні.

Сьпявай!

Каб зашумелі рэхам свабоды беларускія непраходныя пушчы; каб усьцешыліся раскіданыя па курганох беларускае Зямліцы прадзедаў косьці.

І засявай свае гоні!

Засявай зярном справядлівасьці, каб яно вырасла і заглушыла ману, каб пракарміла тваіх працоўных унукаў і дало ім сілу і бесперапыўную бадзёрасьць, каб яны ніколі не заснулі, а цягнулі пачатую табою вольную, працоўную, адраджэнскую беларускую песьню!

*Ул. Казлоўшчык*
*(1896 - 1943)*

## 1996...

*працяг са стар.*

**14 - 18 ліпеня**
Суд над Борманам. У зале суда больш за 30 маладых людзей са значкамі «FREE ROMASHEVSKI». Зьбіраюцца ўдзельнікі «прагулкі палітвязьняў вакол рэзыдэнцыі прэзыдэнта», што адбылася 24 траўня 1995 года. Што самае, цікавае, Рамашэўскі тую акцыю не арганізаоўваў, а, як кажуць, зайшоў на вагенчык... ад БССР-аўскага сьцягу, які спалілі ўдзельнікі прагулкі. За гэтае Бормана й судзяць.

**8 верасьня**
Акцыі з нагоды дня беларускай вайсковай славы. Каля 40% удзельнікаў — моладзь да 25 гадоў.

**кастрычнік**
Пачаліся спробы ўціску на студэнтаў менскіх ВНУ. За ўдзел у акцыях пратэсту пагражаюць выключэньнем.

**19 кастрычніка**
Каля 15 тысячаў на вуліцах Менска. У горад уведзены войскі. Раён Палаца спору ачэплены. Акцыя адметная малой колькасьцю студэнтаў — у ВНУ паставілі заняткі на гэты дзень і ладзяць праверкі наведваньня. Але даволі багата працоўнай моладзі, навучэнцаў ПТВ, тэхнікумаў.

**14 лістапада**
Пачатак адкрытага супрацьстаяньня. Актывісты БНФ і студэнты інтэрнатаў БДУ выходзяць падтрымаць Ганчара да Цэнтарвыбаркаму. На вул. Кастрычніцкай сабралося каля 400 чалавек. Увечары ўсе сьціроўваюцца на пл. Незалежнасьці.

**17 лістапада**
«Шэсьце з завязанымі ратамі» — акцыя пратэсту супраць манапалізацыі СМІ уладамі. Каля 5 тысячаў удзельнікаў. Нягледзячы на міліцэйскія кардоны, частка калёны (пераважна моладзь), колькасьцю да 2-х тысячаў бегам сьціроўваецца ў абыход асноўных сіліў міліцыі й спрабуе выйсьці да пл. Незалежнасьці з вул. Валадарскага. Каля паштамту — сутыкненьні зь міліцыяй у выніку чаго калёна спынена. адбываецца сустрэча з дэпутатамі.

Адметная рыса дня — плошча Незалежнасьці літаральна «забіта» міліцыяй і войскамі. Па горадзе ездзяць БТР-ы.

**17 - 23 лістапада**
Пікет на пл. Незалежнасьці. У ім, акрамя нацыянальных і дэмакратычных сілаў прымаюць удзел прадстаўнікі ПКБ і Аграрнай партыі. На плошчы ўвесь час, зьмяняючы адзін аднога, прысутнічаюць студэнты з бліжэйшых карпусоў БДУ й БДПУ. Сярэдняя колькасьць удзельнікаў пікета — 2-3 тысячы чалавек.

**24 лістапада**
Моладзь, колькасьцяй каля 3-х тысячаў ладзОіць шэсьце па вуліцах Менска ў знак пратэсту супраць правядзеньня незаконнага рэфэрэндума.

**10 сьнежня**
Маладзёжны пікет у падтрымку палітвязьняў каля будынка Нацбанка. Каля 70-ці ўдзельнікаў. Адразу на акцыі ўдзельнікам уручаюцца позвы ў міліцыю ці суд. У знак пратэсту моладзь становіцца тварам да сьцяны, заклаўшы рукі за галавы. Па пікеце каля 15 удзельнікаў затрыманыя.

**Студзень 1997 —....?**

*Падборку рыхтаваў*
*Ігар Тышкевіч*

## Naviny adnym radkom...

У Менску сфармаваны аргкамітэт Другой сустрэчы беларускай моладзі сьвету. У яго ўвайшлі прадстаўнікі арганізацыяў, што праводзілі Першую сустрэчу й прадстаўнікі іншых беларускіх па духу аб'яднаньняў. Мяркуемым месцам правядзеньня сустрэчы названы горад Вільня. Час правядзеньня — лета 1997 года.

30-31 студзеня ў Менску плянуецца правесьці форум беларускіх недзяржаўных арганізацыяў дэмакратычнай накіраванасьці, на якім стварыць агульную парасонную структуры дзеля каардынацыі дзейнасьці па абароне свабоды й дэмакратыі ва ўмовах панаваньня таталітарызму ў краіне.

**Padborka padrychtavanaja Infarmacyjnaj Sluzbaj ZBS**





# Аб палітыцы

*Інтэрвью для SD дае Сэргі Васільчанка —*

**Прапануем Вашай увазе інтэрвью з адным зь лідэраў Камітэта выбаршчыкаў Украіны Сяргеем (Сэргіям) Васільчанка. Размова адбылася пад час падліку галасоў на адным з выбарчых участкаў па правядзеньню рэфэрэндума 24 лістапада 1996 года.**

**І, што самае цікавае, інфармацыя практычна не састарэла. Бо лепей, хаця й са спазьненьнем але карыстаца парадамі сяброў, а ня крычаць пра «дурны народ» і «усеабдымную фальсыфікацыю». Пагадзіцеся, карысна пазнаёміцца з уражаньнямі былога суайчыньніка па СССР-у аб восеньскім палітычным супрацьстаяньні.**

**Яшчэ раз хачу зьвярнуць увагу на тое, што размова адбылася да таго, як сталі наш «усенароднаабраны» абвесьціў вынікі галасаваньня.**

***Спачатку Сяргей распавядзі як ты апынуўся на Беларусі, што цябе сюды прывяло, ну і трошкі аб арганізацыі, ад якой ты сюды прыехаў***

Як апынуўся на Беларусі? Яшчэ ў 93-м годзе, у Кіеве, на сходзе Студэнцкіх арганізацыяў Усходняй Эўропы я пазнаёміўся з прадстаўнікамі ЗБС. Завязаўся, можна сказаць, абмен інфармацыяй і, ужо потым, пад час маёй дзейнасьці ў Камітэце Выбаршчыкаў Украіны сустракаўся з прадстаўнікамі Задзіночаньня ў Польшчы ў 1996-м годзе на «обозе млодых політыкув ўропы», што меўся у Цешыне. Потым, даведаўшыся пра тое, што ў вас будзе рэфэрэндум я прапанаваў Камітэту Выбаршчыкаў прыехаць да вас паназіраць за ходам выбараў і плэбісцыту, магчыма, трохі падвучыць вашых назіральнікаў, магчыма, унесьці невялікую лепту ў пабудову вашай дэмакратыі.

***— Ты сказаў, што адной з мэтаў вашага прыезду на Беларусь была дапамога ў станаўленьні дэмакратыі ў нашай Краіне. Якой ты бачыш гэтую дапамогу?***

Скажам адразу, што прыехаць так, як мы планавалі (трохі раней) не ўдалося, а паколькі сытуацыя ў вас была трохі няпэўная і кожны дзень казалі «ну заўтра нешта зьменіцца»: ці то ваш прэзыдэнт нешта прыме ці Вярхоўны Савет штосьці адменіць — шмат чаго было неясна. А планавалі мы прыехаць за некалькі тыдняў да рэфэрэндума, падрыхтаваць базу, аб'яднацца з людзямі, якія прыедуць потым і разам паездзіць па вабласьцях каб трохі падвучыць вашых назіральнікаў.

Сёньня ж у вас трохі ня так выкарысталі наш прыезд: мы планавалі сабраць каля пяцідесяці людзей, назіральнікаў, нагнаць нейкі ажыятаж. Можа быў бы нейкі ўплыў бо Лукашэнка ніколі не бачыў якая гэта сіла. А ўсе гэты віляньні то ў адзін бок, то ў другі зьбівалі ўвесь запал, што быў у вашых людзей.

***— Добра, Сяргей. Ты ўжо пачаў выказваць свае ўражаньні аб становішчы на Беларусі і зараз я бы парасіў зрабіць не тое што аналіз, але падзяліцца ўражаньнямі ад таго што ты бачыў апошнімі днямі ў нашай краіне. Уражаньнямі чаму ў супрацьстаяньні апошніх дзён выйграў Лукашэнка й прайгралі ягоныя апаненты.***

Чаму выйграў Лукашэнка?

Па першае, у яго быў цудоўны доступ да сродкаў масавай інфармацыі. Быў вялікі прэсінг: ішла вельмі моцная агітацыі, асабліва па тэлебачаньню ды радыё. Падобнага нават блізка не было ў дэмакратаў. Па другое тое, што над Лукашэнка працуюць няблагія іміджмэйкеры, якія стварылі імідж такога прыгожага, з пастаўленай дыкцыяй, які ўмее гаварыць, якраз такога народнага, як вы кажаце, бацькі. Гэта тое, на чым ён шмат граў, бо той жа самы брак рэформаў прыводзіць да кансэрвацыі на Беларусі тых працсаў, якія адбыліся бадай што ва ўсіх краінах СНД, і , як вынік, адбываецца зьбядненьне народу, а чалавек, які альбо ў дэмакратыю альбо ў аўтарытарызм. Па мойму, ў вас, хутчэй за ўсё, здарылася другое. Улада натоўпу, які захацеў «вождя». У нас на Украіне былі падобныя праблемы. На гэтай хвалі прыйшоў да ўлады той жа самы Кучма, які казаў пра барацьбу з карупцыяй, навядзеньне парадку ў дзяржаве.

Ну і, як вы бачыце, тыя законы, якія і наш і ваш парламант прыймае ня ёсьць да канца правільнымі, вывеpанымі, дакладнымі. Там сустракаюцца й недакладнасьці й памылкі й супрацьлегласьці з-за недахопу вопыту працы шмат у каго з грамадзка-палітычных лідэраў ды простых дэпутатаў. Гэта дае магчымасьць у эканамічнай сферы некаторым людзям нячэсна нажывацца. І як заўсёды, з аднаго боку частка людзей бяднее, а з другога зьяўляюцца тыя, хто ездзіць у Mersedes-ах, Lincoln-ах ходзіць з сотавымі тэлефонамі па вуліцах (у нас, на Украіне такіх болей). Але ж у вачах зьбяднелых усе багатыя пардстаўляюцца злодзеямі. Гэтае выклікае азлобленасьць у вялікай колькасьці людзей. Шмат хто чакае, што прыйдзе такая сіла, чалавек, кшталту Сталіна і «навядзе парадак», «забярэ ў багатых ды аддасі бедным». Мауляў, пры Сталіну ўсё было на сваіх месцах, а тут такі бардак, што не даваядзі Гасподзь. Такія настроі асабліва моцныя сярод ветэранаў ды пэнсіянэраў. А, як ты заўважыў, то ў асноўным прыходзяць галасаваць пажылыя людзі, а моладзь збольшага спадзяецца не на ўладу а на свае ўласныя сілы ды лічаць, што само ўсё наладзіцца й нахер тыя выбары здаліся. Таму так сталася, што вялікую ролю адыгрываюць людзі сталага веку аб настроях якіх я ўжо казаў.

...страціў тое-сёе багацьце, заўсёды азлоблены, хоча адпомсьціць усяму сьвету. Гэты козыр Лукашэнка пасьпяхова разыгрываў.

Што да дэмакратаў, то паўтаруся, што яны не мелі магчымасьці давесьці сваю пазыцыю: ня было доступу да СМІ. Бо паглядзі, былі толькі газэты БНФ ды іншых партыяў, якія распаўсюджваліся, ў асноўным на мітынгах. Адпаведна яны, як кажуць, вялікага надвор'я не зрабілі. Па другое тое, што сёньня ў вас няма такога адзінага лідара - сьцягу, які меў бы ўласныя сілы ды неблагі імідж якія б працавалі на ўсіх. Акрамя таго, вам трэба было выкарыстоўваць тыя ж метады, якімі карысталіся шмат хто пад час выбараў: можа трохі дэмагогіі, але яна вам бы не пашкодзіла.

***— Ты сказаў, што няма такога лідара і не далей, як сёньня я пачуў ад аднаго з тваіх калегаў цікавую думку ад тым, што Беларускі Народны Фронт «праспаў» Лукашэнку: ён мусіў зрабіць гэтага чалавека сваім лідэрам. Як адносішся да гэтага?***

Хм... Не тое што праспаў, проста упусьціў. Сёньня я якраз чуў гэтую фразу і пасьля таго, як ты памятаеш я сказаў, што тады б уся Беларусь гаварыла б чыстаю беларускаю моваю і хутчэй бы за Украіну ўступіла б у NATO. Ну гэта быў, канешне, жарт, але як тое не парадаксальна, шлях ад таталітарызму йдзе спачатку праз ахлакратыю — ва ўладу натоўпу, а ўжо потым патрапляе

***— Дарэчы, Сяргей, я ведаю, што днямі ў Менску ты купіў гадзіньнік з партрэтам Сталіна. Што гэта: праява тваёй прагі да моцнай рукі, ці нейкі «прыкол»?***

Ну па першае за такія грошы такі гадзіньнік... Па другое, у нас у Кіеве гадзіньнікаў з крышкаю амаль што няма, а тыя, што ёсьць вельмі нязручнай мадэлі. А гэта быў якраз такі, які я хацеў. Але ж мне прыйшлося выбіраць між расійскім арлом і Сталінам. Я выбраў апошняе.

А акрамя такі гадзіньнік з «отцом народов» — «Das ist exotic» для нас, для Украіны.

***— З другога боку не хацелася браць***




Беларускі рэфэрэндум і ягоныя вынікі вачамі ўкраінскага карыкатурыста



*двухгаловую візантыйскую курыцу?*

Ну не абражай так двухгаловага арла. Усё такі, акрамя Візантыі ды Масковіі ён быў гербам Перэмышля ды Чарнігаўскага ваяводзтва.

***— Добра, вернемся да тэмы: паназіраўшы за падзеямі апошніх дзён на Беларусі, ці можаш ты зрабіць прагноз разьвіцьця сытуацыі ў нашай краіне на бліжэйшыя месяц - два?***

Мусіць, пакуль што не магу, бо так сталася, што мы мала азнаёміліся з жыцьцём палітычных партый, грамадзкіх арганізацый. Акрамя таго на Украіне ёсьць лепшыя арганізацыі ды спэцыялісты, якія ня толькі прагназавалі сытуацыю тут, але й рыхтавалі некаторых з вашых партыйных дзеячоў да выбараў. Шмат хто зь іх цяпер дэпутаты Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь.

***— Але ж мне давялося пачуць ад цябе, што першае, што ты зробіш па***

***і ня толькі ў ёй вы даеце даволі шмат цікавай інфрмацыі па працы дэпутатаў. У тым ліку і цісьнеце на дэпутатаў, прымушаючы іх працаваць больш плённа, напрыклад друкуеце хто як галасаваў, колькі паседжаньняў прапушчана тым ці іншым дэпутатам і па якой прычыне і г. д. Ці ля лічыш ты патрэбным выданьне падобнай газэты, прычым масавым накладам на Беларусі?***

Канешне патрэбна. Ад гэтага горш вашаму Вярхоўнаму Савету ня будзе. Я нават лічу, што калі б што-небудзь падобнае было ў вас, то парламэнт нават болей аўтарытэту меў сярод народу таму што ў вас людзі нічога ня ведаюць пра тое, што робіць ваш Вярхоўны Савет. І гэта таксама праблема, бо ідзе маніпуляваньне аргумантам, што гэта каантацыйны ворган, які нічога ня робіць, а толькі пражырае нейкія грошы, што дэпутаты недзе гуляюць, ездзяць і гэтак далей. Проста людзі ня ведаюць усёй інфаормацыі ды лічаць парламант за такі калгас ці брыгаду альбо тусоўку, дзе людзі сабраліся, аб нечым пагаманілі, нічога ня вырашылі й разышліся.

# й ня толькі

***адзін зь лідэраў «Камітэта Выбаршчыкаў Украіны»***

***вяртаньні — гта вышлеш сюды, на Беларусь, закон ды ўсе нарматыўныя акты Украінскай Рэспублікі аб прыёме ды прадастаўленьня прытулку палітычным уцекачам. Сытуацыю, калі вам прыйдзецца прыймаць ды разьмяшчаць беларускіх сяброў можна лічыць адным з варыянтаў разьвіцьця падзеяў на Беларусі?***

Як кажуць, ад турмы ды сумы не заракайся.

***— Дзякуй канешне за клопат, але ж, думаю што здолеем застацца на Радзіме...***

***Сяргей, як мне вядома, украінскія назіральнікі прывезьлі з сабою на Беларусь ды перадалі беларускім сябрам гимат юрыдычнай літаратуры. Гэта і законы аб выбарах большасьці краінаў Усходняй Эўропы,канстытуцыя ды заканадаўчыя акты Украіны, інфармацыя аб вашым Камітэце Выбаршчыкаў. Сярод іншага была й газэта Пазапартыйная Камітэта Выбаршчыкаў Украіны. Чаго вы хочаце асягнуць выданьнем гэтае газэты?***

Перш за ўсё трэба сказаць, што гэтая газэта узьнікла з арганізацыйнага весьніка «Точка Зору», які распаўсюджваўся выключна сярод сябраў нашай арганізацыі. Але ў пэўны момант ён ужо ня здолеў зьмясьціць тую колькасьць інфармацыі, якая рыхтавалася і ён перарос у такую некамэрцыйную, можна сказаць дабрачынную, бо яня не прыносіць ніякага прыбытку, газэту. Яшчэ важны фактар: калі існаваў весьнік, шмат людзей не сябраў ПКВУ прасілі даслаць яго, што было зрабіць нялёгка з-за абмежаванага наклада. З пераростам яго ў газэту палегчылася распаўсюджваньне (як то праз саюздрук, падпіску і г. д.)

Газэта «Точка Зору» у першую чаргу разварушвала актыўных выбаршчыкаў, публікуючы інфармацыю пра дэпутатаў, пра выбары як на Украіне, так і па за яе межамі, знаёміла з выбарчымі сыстэмамі сьвету, параўноўваючы іх,даючы ім ацэнку. Мы стараемся такім чынам падняць культуру выбаршчыкаў каб з аднаго боку людзі зразумелі важнасьць выбараў і з другога боку каб не рабілі глупства на іх.

***— Наколькі я ведаю, у гэтай газэце***

Акрамя інфармацыі пра прагулы ды нешта падобнае, у нас была серыя артыкулаў пра тое як закон становіцца законам, працэдуру прыняцьця закона, каб людзі ведалі чаму так, напрыклад у закона, які вельмі патрэбны такі доўгі шлях, як, напрыклад нейкай арганізацыі паўплываць на распрацоўку ды прыняцьцё закону: на якіх этапах праект праходзіць, на якіх не, і дзе можна нешта зрабіць, паўплываць. Для прыкладу каб нешта стала законам трэба каб нехта падаў праект у камісію. Адпаведна калі нейкая арганізацыя мае свайго дэпутата, ці наадварот нейкі дэпутат зацікаўлены ў падтрымцы на акрузе (бо ў нас ужо стварэцца такая парламанцкая наменклатура — дэпутаты, якія хочуць быць абранымі на наступны тэрмін) ён перадае законапраект ці, калі ён існуе, высьвятляе, што ў ім не задавальняе ягоных выбаршчыкаў й уносіць адпаведныя папраўкі.

Правіць закон, значна цяжэй: які дэпутат прызнаецца, што ён дурань, што ён прыняў кепскі закон. Хутчэй ён сакжа :«Да адчапіцеся вы! Ужо прынялі закон. А ў нас яшчэ справаў шмат: пад Канстытуцыю трэба прыняць яшчэ больш 500 законаў, а яшчэ дзеля Рада Эўропы некатрыя трэба дарабіць. А вы тут са сваімі папраўкамі.»

Калі ж ведаць працэдуру прыняцьця закона, то можна прасачыць лёс свайго праекта па ўсім шляху і спакойна, без канфліктаў прыняць той закон, ці ўнесьці тую папраўку, якая выгадна пэўным арганізацыям ці проста народу.

Я лічу, што падобныя дзеяньні толькі б падняло аўтарытэт вашага Вярхоўнага Савету ў вачах народу. А гэта, зразумела, важлівасьць.

Напрыклад перад прыняцьцём украінскай канстытуцыі Камітэтам Выбаршчыкаў быў арганізаваны шэраг лекцыяў па паясьненьню Канстытуцыі: што такое раздзяленьне уладаў, навошта гэтая норма патрэбная, як павінны раздзяляцца галіны ўлады і г.д.

***— Такім чынам, наколькі я зразумеў, у існаваньні падобнага выданьня ў першую чаргу зацікаўлены менавіта беларускі парламант?***

Можна сказаць так. Таму што найлепшы захад каб ня было аніякіх чутак — гэта проста прадаставіць інфармацыю. А наконт крытычных матарыялаў — усе ведаюць, што дэпутаты таксама жывая людзі.

***— І ў сувязі з гэтым ці бачыш ты сёньня на Беларусі такую ініцыятыўную групу, якая б здолела «пацягнуць» такі ладны кавалак працы, як стварэньне Камітэтаў Выбаршчыкаў у нашай краіне ці хаця б выдаваць газэту? Групу як сярод простых людзей, так і сярод дэпутутаў.***

Ну з дэпутатамі мы мала сустракаліся, але былі пэўныя людзі, што зацікавіліся нашай працай. Але большасьць зь іх была з грамадзкіх арганізацыяў.

Але ж на Беларусі ёсьць такая праблема, што ў вас ужо былі падобныя клюбы выбаршчыкаў, якія стваралісі й дзейнічалі пад пэўнымі партыямі. Таму яны ня ёсьць нейтральнымі й ня ўлічваюць спэцыфіку: дзеля таго, каб камітэт выбарцаў пасьпяхова дзейнічаў і да ягонай думкі прыслухоўваліся як на выбарах, калі ён рэгіструе парушэньні, так і паміж выбарамі — ён мусіць быць нейтральным.

Ізноў такі ёсьць лёдзі ў якіх ёсьць ідэя такое зрабіць, але пакуль што гэта толькі ідэі. Думаю што пабачым, можа ім удасца нешта зрабіць.

***— Ну што ж, я паспрпабую зрабіць нейкія высновы з нашай размовы. магчыма мая думка падасца трохі заўчаснай, але папраў мяне, калі я не маю рацыі — будучыня парламентарызму ў нашай краіне дый сама будучыня Беларусі толькі ў дэмакратызме, падвышэньні культуры выбаршчыкаў і, як любілі казаць у канцы 80-х, у галоснасьці кіраваньня дзяржаваю. Ці гэта так?***

Канешне так. Трэба падымаць кульбтуру выбаршчыкаў і сапраўды, чым болей людзі ведаюць, тым больш яны давяраюць, тым больша аўтарытэт улады.

***— І калі можна так сказаць POST SCRIPTUM: Як табе спадабаўся Менск? Як табе спадабаліся нашыя людзі? Дзяўчаты? І, ведаючы твой апетыт, як табе спадабалася нашая ежа?***

Скажы чэсна Менск спадабаўся. Чыстае невялікае места. Можна сказаць утульнае. Гэта па першае. Другое што?...

***— Людзі***

Людзі таксама, хаця яны ў вас трохі больш заклапочаныя, чым у Кіеве. І, ня ведаю чаму, яшчэ ў вас міліцыі багата бегае. Але аб іх нічога сказаць не магу — яны ўсе ў масках. Трэцяе?

***— Дзяўчыты...***

Я занадта мала іх бачыў.

***— А што наконт ежы?***

Ну а ёжа? У гэтым... Цэнтарвыбаркаме ў буфеце мы елі украінскі боршч, тут недалёка — піцу. А калі я быў у вас у гасьцях — там было тое ж з бульбы, што і мы гатавалі.

*Гутарыў Ігар Тышкевіч*

**УВАГА! ATTENTION! UVAHA!**

*Студэнты, Студэнткі і «иже с ними»! Студэнцкая Думка — наша агульная газэта. Таму зьвяртаемся да ўсіх, хто хоча выказаць сваю думку ці проста распавесьці пра цікавыя моманты свайго студэнцкага жыцьця. Пішыце, тэлефануйце. Будзьма чакаць!*

*Рэдакцыя SD*

***Пад час працы з людзямі даволі часта даводзіцца чуць думку, што на Беларусі ня існуе маладзёвых грамадзкіх арганізацыяў за выключэньнем рэшткаў камсамола й філіяў палітычных партыяў. Пасьля такіх размоваў пераконваесься, што з арганізацыямі «трэцяга сэктара» альбо NGO-ы (так яшчэ называюць недзяржаўныя арганізацыі) у асяродку тых, каму да 30 вялікія праблемы. Справа ж у тым, што большасьць групаў не займаецца самарэклямай, асьвятленьнем сваёй дзейнасьці. Адпаведна яны нешматлікія. У той жа самы час вялікая колькасьць моладзі жадае неяк праявіць сабе, але ня ведае куды зьвярнуцца.***

***Каб укласьці сваю лепту ў асьвятленьне дзейнасьці NGO-s на Беларусі за апошнія некалькі год, мы распачынаем друкаваць сэрыю адпаведных артыкулаў. А каб гэтае ня было падобнае да рапартаў з камуністычных будоўляў, сэрыя пойдзе пад агульным дэвізам «мае прыватныя ўражаньні аб мерапрыемстве».***

***Першы артыкул асвятляе адносна нядаўнюю падзею — курсы маладых лідараў, што праходзілі на Беларусі ў сярэдзіне лістапада.***

***Рэдакцыя SD***

# «Што робіць нас рознымі і што нас злучае»

Зь 8 па 18 лістапада на Беларусі праходзілі адукацыйныя курсы маладых лідараў пад назвай «Што робіць нас рознымі і што нас злучае». Асноўная цікавасьцьгэтых курсаў у тым, што яны - вынік сумеснай працы пяці Нацыянальных Радаў маладзёвых і дзіцячых арганізацыяў зь Нідэрляндаў, Беларусі, Украіны, Румыніі і Бельгіі. Канешна ж асноіная арганізацыйная праца лягла на беларускі бок і трэба адзначыць, што Усебеларуская Нацыянальная Рада, як галоўны арганізатар у чарговы раз паказала сябе, як сапраўдны беларускі гаспадар, з належачым яму гасьціннасьцю й дабразычлівасьцю.

Стартавалі курсы ў Менску ад будынку Дома Афіцэраў. Адразу ў аўтобусе пачаўся працэс цікавых знаёмстваў і інтэграцыі. (Мне асабіста не падабаецца слова «інтэграцыя», думаю са зразумелых для шаноўнага чытача прычынаў. Але тут, на курсах гэтае слова прыняло свой сапраўдны, натуральны сэнс, дзе кожны бачыі суседа як роўнага). Я, які мае сякі-такі вопыт у імпрэзах падобнага роду быў нават здзіўлены, наколькі хутка пайшоў гэты працэс знаёмстваў. Адразу было бачна што сабраліся сапраўдныя лідары, для якіх няма ні моўнага, ні псіхалягічнага, ні культуральнага бар'еру. І дакладна самы пік гэтага працэсу прыйшоўся на вечар, а кажучы па-праўдзе на ноч у доме адпачынку «Дубрава», што каля Салігорску.

На мой погляд адзіная праблема і неабходнасьць на курсах такога кшталту - гэта ну вельмі кароткія й бурныя ночы, якія зьмяняюцца цяжкім ранкам.Тым ня менш асноўная праца ўдзнь праводзілася даволі інтэнсіўна, энэргічна й насычана.Удзельнікі ў першыя тры дні займаліся агульнаэўрапейскімі справамі, нактшалт: «Што такое Эўропа?»,альбо «Што такое супрацоўніцтва?» і г. д. Атрымалі веды пра структуру Рады Эўропы і даведаліся, якім чынам ва Эўрапе вырашаюцца пытаньні маладзёвай палітыкі. Была арганізавана выстава, якая яшчэ бліжэй пазнаёміла ўдзельнікаў з часткай маладзёвых арганізацыяў кожнай з краінаў. Цікава было наглядаць, як стваралася гэтая выстава. Вось тут і пачаліся патроху праяўляцца ўсе талентя кожнага ў справе дызайнера і ў якасьці маляўніка і рэпрэзэнтатара.

Пасьля сканчэньня гэтях інтэнсіўных трох дзён уся ргамада курсаі была падзелена на дзьве групы. Адна зь якіх накіравалася ва ўсходні фарпост нашай краіны - у горад Гомлю.Іншая частка, зь вялікім інтузіязмам паехала ў няменш славуты горад на захадзе Беларусі - у Гародню. Так пачаўся другі этап курсаў.

І ўГомлі і ў Гародні ўдзельнікі правялі шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі рэгіянальных маладзёвых арганізацыяў, зрабілі захады да стварэньня пэўных сумесных праектаў. А іжо якіх толькі арганізацыяў не было прэзэнтавана на гэтых укрсах! Спэктр іх такі шырокі, што адзін толькі пералік тут мог бы заняць значную частку. Пачынаючы ад асацыяцыі гомасэксуалістаў і лезьбіянак зь Нідэрляндаў, падаўжаючы вялікай колькасьцю «рознамастных» скаўтаў і сканьчваючы (яшчэ жывым!) камсамолам. Пасьля працы, канешна, былі меньш афіцыйныя размовы за куфлем смачнага піва, ці за кубачкам кавы. Сумесныя шпацыры па гораду, дз гаспадары з задавальненьнем знёмілі гасьцёў з гісторыяй роднага гораду. Але і гэты этап сконьчыўся і дзьве групы, дагэтуль знаходзячыся ў розных баках краіна зноўку сустрэліся ўжо ў доме адпачынку «Юнацтва», што пад Менскам. Якая была сьвяточная вячэра пры сьвечках у той вечар!

Навы дзень і новая праца. Апошнія тры дні праляцелі найхутчэй за ўсе астатнія. Напоўненыя яны былі цяжкай працай па стварэньню будучых праектаў. Тры дні напружанай працы - паглядзім, што ж атрымалася. Я думаю, ты, шаноўны чытач павінен даведацца. Спадзяюся, што, ты, пачуеш пра гэтыя праекты ў гэтым ц,і ў іншым годзе.

*Алесь Казак*

**Naviny adnym radkom...**

Перад самым новым годам на адну газэту стала болей — было выдадзена пасьведчаньне на рэгістрацыю газэце «MUSIC Квартал». Рэдакцыя гэтага выданьня вырашыла пачаць працу трохі нетыпова для газэты: замест першага нумара ў сьвет выйдзе... касэта з запісам альбома беларускага барда Зьміцера Бартосіка. Ейная прэзэнтацыя адбудзецца на першам сольным канцэрце Зьміцера ў Менску 15 студзеня бягучага года ў тэатры «Вольная Сцэна». А паколькі канцэрт арганізуе таксама рэдакцыя «МК», то можна сказаць, што характарыстыку свайго квартала (каторы «MUSIC») яны апраўдалі. Толькі калі яны апраўдаюць слова газэта й нарэшце выйдуць поўным накладам. Надта ж хочацца пачытаць чым займаецца, напрыклад, Сьцінг.

**Padborka padrychtavanaja Infarmacyjnaj Službaj ZBS**

# Калянавуковыя нататкі аб адной непрыемнай асаблівасьці “хлябей нябесных”

Што такое “экалегія” ведаюць усе. Слова “экалегія” трывала сядзіць у грамадзкай сьвядомасьці, трансфармуючыся па меры неабходнасьці то ў расплывіста-эмацыянальныя вобразы, ад антыўтопіяў з чорным-чорным небам на чорнай-чорнай травой, да нябесных мастараляў, то ў канкрэтныя гістарычныя рэчы накшталт Чарнобыля, азонавых дзірак і кіслотных дажджоў. На самой справе ўсе значна прасьцей і значна складаней. Экалёгія - гэта навука, дакладней, сістэма навукаў, са сваёй спэцыфікай, тэрміналёгіяй, метадалёгіяй ды іншымі гучнымі словамі. Паколькі яна, як і іншая навука не церпіць дэмагогіі і, як ніякая іншая, цесна зьвязвае ўсё з усім, то ўсёж-такі лепш што-небудзь ведаць дакладна.

Напрыклад пра славутыя “кіслотныя дажджы” вельмі карысна будзе ведаць наступнае. Тэрмін “кіслотныя дажджы” не зьяўляецца строга дакладным, таму што кіслотныя асаджэньні бываюць дзьвух відаў: сухія і вільготныя, і заключаюць у сабе ўсе выпаданьні, якім уласьцівая характэрная для кіслотных злучэньняў рэакцыя з асяродзьдзем. Не паглыбляючыся ў тонкасьці фізыка-хімічных атмасфэрных працэсаў, можна выдзяліць некалькі этапаў таго працэсу, што адбываецца з моманту выкіду забруджвальнікаў да выпаданьня кіслотных асаджэньняў:

1) перанос ветрам ад крыніцы выкіду да зоны выпаданьня;
2) фізыка-хімічныя працэсы ў паветранай плыні;
3) убіраньне забруджвальніка кроплямі дажджу (вільготныя выпаданьні);
4) асяданьне на паверхні (сухія выпаданьні).

Аснаўнай прычынай утварэньня кіслотных асаджэньняў зьяўляюцца выкіды аксыдаў сэры і азоту. Толькі $SO_4$ і NO - адны з асноўных прамысловых забруджвальнікаў. Праблема кіслотных асаджэньняў ёсьць адна з даўніх праблемаў забруджваньня атмасфэры (дарэчы, сам тэрмін “кіслотныя дажджы” быў уведзены Р. Сьмітам у 1872 годзе; такім чынам, праблемы, што хвалявалі шаноўнага джэнтэльмэна больш за стагодзьдзе таму, непакояць нас зараз ня меней, што ўяўляе сабой даволі пэсыместычны прыклад пераемнасьці пакаленьняў).

Цяжкасьць ва ўліку і прагназаваньні кіслотных выпаданьняў (а як вынік, і ацэнка ўплыву на экасыстэмы) уяўляе тое, што атмасфэра - бадай, самая дынамічная і непрадказальная сістэма геаграфічнай абалонкі, таму даць абсалютна дакладны прагноз практычна немагчыма. Апроч таго, шмат злучэньняў, з ліку утвараючых кіслотныя ападкі маюць даволі вялікую “працягласьць жыцьця” у атмасфэры, і таму распаўсюджваюцца на вялікія адлегласьці.

Вылучаюць тры асноўных віды распаўсюджваньня забруджвальнікаў: лякальны. мясцовы і трансмежны, прычым апошні прыносіць нашмат больш клопатаў як па памерах «дарункаў», так і па вызначэньні адрэсаў тых, хто « падараваў». Трэба сказаць, што і ў дадзеным выпадку геаграфічнае становішча Беларусі надта невыгоднае. Тэрыторыя РБ знаходзіца пад уплывам заходняга пераносу паветраных масаў (як бачым, з Захаду да нас дзьмуць ня толькі палітычныя вятры), а значыць знаходзячыся на ўсходніх межах Заходняй Эўропы, у поўнай меры адчувае на сябе ўплыў выкідаў прамысловых рэгіёнаў Захаду.Увогуле, уклад вятроў заходніх накірункаў у агульнае забруджваньне паветра складае 65%.

З другога боку, асноўныя прамысловыя рэгіёны Беларусі сканцэнтраваныя ва ўсходняй і паўночна-усходніх частках рэспублікі, а значыць, прамысловыя выкіды распаўсюджваюцца, у асноўным, тым жа самым заходнім пераносам на тэрыторыю Расеі і Украіны. Такім чынам , забруджваньне тэрыторыі РБ кіслотнымі асаджэньнямі мае два полюсы: 1) заходні «трансмежны»; 2) усходні «мясцовы»; менавіта так, кіслотныя асаджэньні разьмеркаваныя па тэрыторыі РБ дастаткова раўнамерна, з акцэнтам у заходняй частцы( у выніку атрымліваецца дрэнна ўсім, але някрыўдна нікому).

Ну і нарэшце, пра самы адчувальны аспэкт праблемы. Да найбольш верагодных ахвяраў кіслотных дажджоў належаць хвойнікі (хваёвыя лясы). Стан беларускіх лясоў яшчэ нельга ацэньваць як крытычны, але ў прамысловых раёнах Паўночнай Амерыкі і Заходняй Эўропы вядомы выпадкі ўсыханьня вялікіх лясных масіваў, забруджваньне глебы й вадаймаў. Забруджваньне атмамасфэры кіслотнымі асаджэньнямі выклікае разбурэньне будынкаў, карозію мэталёвых канструкцыяў. Адзначаюцца прамыя і ўскосныя ўздзеяньні на здароўе людзей. Так, да прыкладу, пры рэзкім павышэньні канцэтрацыі аксыду сэры ў паветры ўзрастае колькасьць дыхальных захворваньняў (нярэдка і зь лятальным вынікм).

Карацей, лепш не забываца на тое, што жывем мы не на Тунгускім плато, а ў цэнтры Эўропы, дзе няма дажджоў некіслотных, ёсьць больш ці менш кіслотныя. І каб не напаўняць сабою сумную статыстыку ахвяраў экалягічнай абстаноўкі, зусім не абавязкова спыняць усялякія «экспэдыцыі» у вонкавы сьвет, або нэрвова «вещать» аб пагрозе незвычайнай небясьпекі. Можна проста рабіць маленькія цывілізаваныя «глупствы», пра якія шмат хто ведае, але няшмат хто робіць - хадзіць з парасонам, мыць рукі і абутак, не жаваць зялянінку ля шасэ - сьвінцу там больш, чым рамантыкі. Але гэта ўжо зусім іншая размова.

Дадзеная праца часткова падтрыманая Праграмай у сфэры адукацыі і дакладных навукаў Беларускага Фонду Сораса.

## Naviny adnym radkom...

У канцы сьнежня ў Баранавічах (Берасьцейская вобласьць) прайшоў устаноўчы сход грамадзкай арганізацыі «Сьвятліца». Яе стваральнікамі сталі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі горада. За асноўныя мэтаў свайго існаваньня «Сьвятліца» уважае разьвіцьце беларускае культуры як неад'емнай часткі агульнаэўрапейскае культуры, умацаваньне патрыятызму сярод моладзі. Дакументы на рэгістрацыю былі пададзены ў Берасьцейскі аблвыканкам.

Добры знак, калі творчыя ініцыятыўныя людзі аб'ядноўваюцца дзеля вырашэньня праблемаў нашага грамадзтва. Галоўнае цяпер, каб «Сьвятліца» ня стала «арганізацыяй на паперы», а заняла сваю нішу ў культурнай прасторы Баранавіцкага рэгіёна.

Padborka padrychtavanaja Infarmacyjnaj Sluzbaj ZBS

# РЭЛІГІЙНАЯ І ПАЛІТЫЧНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ У ДЗЯРЖАЎНЫХ НАВУЧАЛЬНА-ВЫХАВАЎЧЫХ УСТАНОВАХ

## РЭЛІГІЙНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ У НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОВАХ

1. Чым вызначаюцца адносіны дзяржаўнай навучальнай установы да рэлігіі ?

Законамі Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» і «Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыяй». У Законе «Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях» гэтыя адносіны вызначаны наступным чынам (арт.8): «Дзяржаўная сістэма адукацыі і выхаваньня ў Рэспубліцы Беларусь носіць свецкі характар і не ставіць мэтамі фармаваньне тых або іншых адносін да рэлігіі».

2. Ці дапушчальна рэлігійнае або атэістычнае выхаваньне ў навучальных установах ?

У дзяржаўных навучальных установах не дапушчальна ні рэлігійнае, ні атэістычнае выхаваньне ні ў якіх формах. Гэта вынікае са сьвецкага характару навучаньня ў дзяржаўных навучальных установах і прынцыпа раздзяленьня сьвецкага і рэлігійнага навучаньня.

3. Ці дазваляецца правядзеньне ў навучальных установах рэлігійных абрадаў, цырымоній ?

У дзяржаўных навучальных установах не дапушчаецца.

4. Ці дапушчаецца правядзеньне рэлігійнага навучаньня на базе дзяржаўных навучальных установаў ?

Не дапушчаецца. У адпаведнасьці з арт.8 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях» для рэлігійнай адукацыі дзяцей і дарослых зарэгістраваныя рэлігійныя арганізацыі могуць выкарыстоўваць «памяшканьні, якія ім належаць або даюцца ў карыстаньне, акрамя памяшканьняў дзяржаўных навучальных установаў».

5. Ці могуць рэлігійныя арганізацыі накіроўваць школьнікаў і навучэнцаў у замежныя рэлігійныя школы і лагеры (з адрывам ад навучаньня) ?

Гэта не дазваляецца ў час іх навучаньня ў дзяржаўных навучальных установах.

6. Якім чынам навучэнцы могуць знаёміцца з рэлігіяй ?

У навучальныя планы дзяржаўных навучальных установаў могуць быць уведзены факультатыўныя курсы «Гісторыя рэлігіі», «Сусьветныя рэлігіі», «Рэлігіязнаўства», якія павінны мець інфармацыйны характар і не суправаджацца рэлігійнымі абрадамі.

Выкладаць гісторыю рэлігіі павінны настаўнікі, якія маюць спецыяльную прафесійную падрыхтоўку.

## ПАЛІТЫЧНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ У НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОВАХ

7. Чым вызначаюцца адносіны да палітычнай дзейнасьці ва ўстановах сістэмы адукацыі ? Законам «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», у якім існуе артыкул «Адукацыя і палітычная дзейнасьць».

8. Ці дазваляецца дзейнасьць партый у навучальных установах?

У адпаведнасьці з названым артыкулам Закона «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», ва ўстановах сістэмы адукацыі забараняецца дзейнасьць структур палітычных партый або іншых грамадзкіх аб'яднаньняў, што маюць палітычныя мэты, а таксама дзіцячых, падлеткавых ці юнацкіх згуртаваньняў, якія дзейнічаюць выключна на падставе статутаў такіх партый ці аб'яднаньняў.

9. Ці дазваляецца палітычная агітацыя ў навучальных установах?

Палітычная агітацыя дазваляецца толькі ў час правядзеньня агульнадзяржаўных палітычных кампаній: выбараў, рэферэндумаў. У іншы час усе палітычныя мерапрыемствы (палітінфармацыі, дыскусійныя клубы і інш.) павінны мець толькі інфармацыйна-тлумачальны характар.

10. Як могуць навучэнцы павышаць сваю палітычную культуру ?

Пры вывучэньні курсаў гуманітарных і грамадзкіх дысцыплін, шляхам арганізацыі клубаў палітычных ведаў, дыскусійных клубаў, правядзеньня палітінфармацый і інш. У навучальна-выхаваўчых установах рэкамендавана ствараць такія мадэлі жыцьцядзейнасьці, якія б адпавядалі ці імітавалі грамадзка-палітычную сістэму краіны: з выбарамі і рэферэндумамі, самакіраваньнем, грамадзкімі арганізацыямі і нефармальнымі аб'яднаньнямі, незалежнымі радыё- і насьценнымі газэтамі. Рэкамендавана аказваць дапамогу органам самакіраваньня, творчым аб'яднаньням навучэнцаў, дзіцячым, юрацкім арганізацыям і рухам, дзейнасьць якіх не супярэчыць існуючаму заканадаўству.

***КРЫНІЦЫ ІНФАРМАЦЫІ:***

1. Пісьмо па Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь «Аб адносінах дзяржаўных навучальна-выхаваўчых установаў да рэлігіі і рэлігійных арганізацый» за 22.12.1993 № 12-4/538. Апублікавана ў «Зборніку нарматыўных дакументаў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь» № 3 /1994.

2. Пісьмо па Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь «Аб адносінах да палітычнай дзейнасьці ва ўстановах сістэмы адукацыі рэспублікі» за 22.12.1993 № 12-4/539. Апублікавана ў «Зборніку нарматыўных дакументаў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь» № 3/1994.



*Проба пяра*

*Вольга Мацюк*

# *Назаві мяне сваёй сяброўкай*

*Мне так хочацца жыць, адчуваючы целам*
*Траўку кожную гэтай салодкай зямлі,*
*Каб пачуцьцяў раку ня спынялі расстрэлам,*
*Сашчапляючы вусны ў клейкай крыві.*

*Піць з гаючы крыніц, адпусьціўшы на волю*
*Крылы белыя слова, што з сэрца ляціць.*
*Хай на поўдзень яно ня зьнікае ніколі,*
*Ды й у зімовую сьцюжу пяшчотай гучыць*

*Не верце, калі вас вачамі пужаюць,*
*Калі вусны крывяць, што ўчас не прыйшлі.*
*Бо водар пачуцьцяў цяпер не цікавіць.*
*А вабіць увага, адданасьць заўжды.*

*Патрэбны не вы, а ваша пяшчота,*
*Якую прыемна тады ўспамінаць,*
*Калі ў дзьверы стукае хмар адзінота*
*Ды зоры з-за шэрані сумна зіхцяць.*

*Прыйшоў новы дзень, абудзіўшы ад стомы,*
*Агеньчык хітрынкі на вуснах блішчыць.*
*Жывеш адзін раз! Прэч усе забароны!*
*Раней што было пакуль можна забыць.*

*Плюскоча рака, маўчыць берагамі,*
*Пад ранішні дождж падстаўляе сьпіну,*
*Мне добра ісьці,адчуваць пад нагамі,*
*Як час пакідае прастору сваю.*

*І хочацца з сонцам завесьці сяброўства,*
*Забыўшыся, крыкнуць уголас: «Жыву!»*
*У такія хвіліны маўчыць адзіноцтва,*
*Схіліўшы на грудзі ў сьне галаву.*

*Разбудзіць яго думкі певень крыклівы,*
*Хто можа адвечныя рукі спыніць.*
*Плюскоча рака - спачувальнік маўклівы.*
*Як кроплі дажджу, сум на твары блішчыць*

*Дзень нараджае маладосьць,*
*Ды ўсход душу не саграваe.*
*Навошта ў сэрцы струны ёсьць,*
*Калі на іх ніхто не грае?!*

*Навошта гэта цішыня,*
*Нашто спакой - хачу змаганьня.*
*У бязьмежжы сьвету я адна.*
*Дзе ты, адказ на ўсе пытаньні?*

*Назаві мяне сваёй сяброўкай*
*І скажы: «Ты так патрэбна мне».*
*Толькі сьціхнуць за дзьвярыма крокі,*
*А я ўжо сумую бяз цябе.*

*Непатрэбны мне з нябёс аблокі,*
*Залатыя скарбы ўсёй зямлі.*
*Проста назаві мяне сяброўкай*
*Ды сваю ўсьмешку падары.*

# *Студэнцкая Застольная*

*Аўтар невядомы*

*Ад панядзелка*
*да панядзелка*
*Дробны дождж ідзе,*
***Сабралося бедна студэнцтва***
***Ды гарэлку п'е.***
*П'ем мы гарэлку,*
*П'ем мы вішнёўку,*
*Будзем піць віно,*
***А хто прыйдзе з нас пасьмяяцца —***
***Будзем біць таго.***
*Вось ідзе дзядзька,*
*Дзядзька дэкане*
*- Насмяхаецца:*
***Скуль жа, скуль жа, бедна студэнцтва,***
***Напіваецца.***
*Не насьмяхайся,*
*Дзядзька дэкане.*
*Лепей хадзі за стол —*
***Вып'еш гарэлкі, бульбай закусіш —***
***Будзе ўсё адно.***
*Рад бы я зьесці,*
*Рад бы я выпіць,*
*Рад бы закусіць,*
***Ёсць у мяне сто рублёў грошай -***
***Шкода разьмяніць.***
*Адзін за ногі,*
*Другі за рукі,*
*Трэці ў шкарак б'е:*
***Не хадзіў бы, дзядзька дэкане,***
***Дзе студэнцтва п'е.***
*Дробна драбніца,*
*дробна драбніца*
*Дробны дождж ідзе.*
***Сабралася бедна студэнцтва***
***Ды гарэлку п'е.***

**Здамо нашыя задавальняючыя веды на добра й выдатна!**

# Ад сэсіі да сэсіі жывуць студэнты весела...

***Як вядома, усім студэнтам два разы на год як сьнег на галаву звальваецца сэсія. І, што трэба адзначыць, ня было яшчэ аніводнага выпадку, каб сэсійны перыёд быў бы што называецца «да часу»: улетку усе думкі аб тым, каб паехаць зь сяброўкаю (сябрам) куды небудзь бліжэй да сонца, вады й падалей ад дастаўшых за год канспектаў, лекцыяў, сэмінараў; узімку ж ні пра якую вучобу й здачу іспытаў ня хочацца нават чуць — трэба добра адзначыць Новы Год (Каляды, Стары новы год, дзень нараджэньня любімага сабачкі і г. д.). Таму ўсе нармальныя студэнты (я не кажу пра першы курс, бо яны — паступіўшыя абітурыенты) пры здачах даволі часта карыстаюцца паслугамі такой істоты як Халява[1]. Але, на жаль, магчымасьці Халявы абмежаваныя — яна ня можа (ды й ня хоча) дапамагчы ўсім адразу. Таму шмат у якіх ВНУ практыкуецца такая традыцыя як лаўленьне вышэйузгаданай істоты. Ніжэй я паспрабую апісаць як праходзіць гэты працэс у БДУ й Астраханскай Вышэйшай Лётнай Вайсковай Вучэльні (Расея).***

## Адлоў Халявы па-БДУшнаму

Халяву трэба лавіць у пачатку сутак, калі Вы здаеце іспыт (залік).

Дзеля гэтага неабходна наступнае:

1) Залікоўка;
2) Наяўнасьць адчыненага вакна;
3) Добры голас;
4) $24^{00}$ на гадзінніку;
5) Наяўнасьць Вас саміх (сябра за Вас халяву ня зловіць!).

Ітак, роўна а 12-й ночы трэба высунуцца ў загадзя адчыненае вакно з залікоўкай (яна мусіць быць адкрытая на той старонцы, куды вам будуць ставіць адзнаку) і тры разы ва ўсё горла крыкнуць «Халява, прыйдзі!» Пасьля чаго закрыць залікоўку й нікому яе не даваць і не гартаць. Адкрыць яе можа толькі выкладчык на іспыце — інакш халява выляціць. Некаторыя студэнты для большай надзейнасьці абматваюць залікоўку ніткамі.

Заўвагі:

1) Крычаць трэба менавіта вышэйуказаныя словы, а не «Халява, лавісь» і падобнае: Халява вольная істота й ня любіць, калі яе насільна ловяць. Таму трэба быць апошнім ёлупням, каб паведамляць ёй пра Вашыя намеры пратрымаць яе ў пыльнай залікоўцы.

2) Клікаць Халяву трэба **роўна** а 24-й гадзіне — лічыцца, што менавіта ў гэты час яна канчаткова вызваляецца й вылятае з заліковак, дзе была папярэднія суткі.

3) Як і любой істоце, Халяве не падабаецца сядзець зачынёнай. Акрамя таго яна надзіва лянівая і працаваць дзеля вашай здачы (калі толькі ў вас зь ёю не сяброўскія стасункі) не зьбіраецца. Таму пры адкрыцці залікоўкі перад іспытам яна стараецца скарыстацца нагодаю й высьлізнуць. Ня трэба ж ёй даваць гэты шанец!

4) Халява любіць павагу і ласку. Таму **НІКОЛІ** яе не абражайце — можна застацца без ейнай дапамогі на ўсе сэсіі.

5) І ўсё ж такі не адпужвайце такую істоту як Вучоба пастаяннай Халявай!

---

1. Халява (Х.)— жывая істота невядомага паходжаньня, якая дапамагае студэнтам здаваць іспыты й залікі пры поўнай адсутнасьці ведаў. Існуюць некалькі вэрсіяў паходжаньня Х. Дыяпазон думак вагаецца ад гіпотэзы што «Халява — дух праваліўшайся студэнткі (ці добрага выкладчыка)» да гіпотэзы аб «Халяве, як разнавіднасьці дамавога». Хто гэта на самой справе — невядома. Адзіны даказаны факт аб Х. — тое, што яна існуе.

**Малая Студэнцкая энцыклапедыя.**

## Адлоў халявы па-вайсковаму.

Адлоў халявы у вайсковых вучэльнях праходзіць ,можна сказаць вельмі жорстка — войска ёсьць войска.

Пачынаецца ўсё таксама а 12-й ночы. Але, у адрозненьні ад студэнтаў, курсанты ловяць халяву групай, у якой ёсьць размежаваньне абавязкаў.

Перад пачаткам адлова (прыкладна ў $23^{30}$) прызначаецца так званы наводчык, у абавязкі каторага ўваходзіць шукаць Халяву. Акрамя таго, пасьля прызначэньня, ён выбірае навалку, у якую будуць лавіць і зьбірае залікоўкі (альбо ведамасьці ў адно месца).

Роўна а 12-й гадзіне група лаўцоў на чале з наводчыкам (разам каля 20 чалавек) вылятае на калідор казармы й з воплямі пачынае «ганяцца за Халявай». Наводчык кажа, дзе яна. Мэта — злавіць Халяву ў навалку. Часьцей за ўсё, праўда ў яе патрапляюць курсанты-першакурснікі. І тады паўтараецца сытуацыя з мульціка «Зайца не видали?», калі ўсе пытаюцца «Ня ён?», а небарака малады курсанцік крычыць «Не я!».

Калі ж на думку наводчыка Халява злоўлена, то навалка завязваецца (каб ня выпусьціць). Пасьця гэтага на ложку раскладаюцца залікоўкі й халява выпускаецца на іх. Абыходжаньне з залікоўкамі ці ведамасьцямі пасьля гэтага такое ж, як і ў БДУ.

Як бачым, апошні спосаб надта жорсткі й можа пакрыўдзіць Халяву (за выключэньнем выпадкаў, калі той хочацца пагуляцца). Таму яго выкарыстоўваць ня варта.

Другі недахоп — пры выпусканьні Халявы з навалкі яна можа зьбегчы альбо не зайсьці ва ўсе залікоўкі. Таму некалькі чалавек могуць «праляцець».

Але ж і гэты спосаб дзейнічае. Інакш бы ім не карысталіся некалькі пакаленьняў курсантаў.

*М. Г-ч*




*Часапіс беларускага студэнцтва*

***Выдаецца з 1924 года (зь перапынамі).***

***Выданьне аднаўлена ў 1989 годзе.***

**Нумар рыхтавалі:**

*Алесь Казак, Ігар Тышкевіч*

Меркаваньне аўтараў можа не супадаць з поглядамі рэдакцыі.

Аўтары нясуць поўную адказнасьць за дакладнасьць падачы матарыялу.

**Пы перадруку спасылка на SD абавязковая.**

**Адрэса рэдакцыі: 220050, Менск, Паштамт, а/с 493; тэл. (017) 2 37 37 38**

Наклад: 200 паас.

Кошт вольны